PAŠAUKIMAS.
Baltgudžių visuomenės laikraštis.

# ПОКЛІЧ

## Беларуская грамадзкая часопісь.

▼▼▼▼

№ 2 (4) 25-га Ліпеня—1926 г. Коўна.

Kaina 1 lt.

P. Sokolovskienės ir G. Lano spaustuvė Kaune. Tel. 793.

# Зьмест.

Страніца.

**Дай руку.** *М. Бяздольны* . . . . . . . . . . . . . . . . 1

**Справа паняволеных народаў і шляхі беларускага адраджэньня** (*Працяг*).—Рэвалюцыя і справа беларускага адраджэньня. Спробы прыслухачоў Б.Н.Р. зьвязацца з Рэвалюцыяй. Хістаньне Ураду Б.Н.Р. Зьбіраньне сіл рэвалюцыйным Менскам. Вынікі працы Ўраду Б.С.С.Р. 2-ая Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада і яе „ганьбіцелі“. Вывад. *Пуцята* . . . . . . 2

**Песьня гаратая.** *М. Бяздольны* . . . . . . . . . . . 17

**Рэзалюцыя прэзыдыуму** ЦВК СССР па дакладу прэзыдыуму ЦВК БССР . . . . . . . . . . . 18

**Падзел.** *А. Палын* . . . . . . . . . . . . . . . . . 20

**Беларускае жыцьцё ў Літве** . . . . . . . . . . 21

**Радавая Беларусь** . . . . . . . . . . . . . . . . . 22

**Заходняя Беларусь** . . . . . . . . . . . . . . . . 31

# Покліч

**выходзіць два разы ў месяц.**

**Цана нумэру 1 літ.**

Падпіска: на месяц—1 л. 75 ц.
на поўгода—8 л. 50 ц.

За кардон—на 50 цэнтаў у месяц даражэй.

Цана абвесткам з разрахунку 1 страніца 40 літ.; на абкладцы—ў два разы даражэй.

**Падпіс. і абвесткі прымаюцца ў магазыне „B-vė Knyga“, Laisves al., 52.**

№ 2 (4). 25-га ЛІПЕНЯ—1926 г. Коўна.

*М. Бяздольны.*

## Дай руку.

Падайце нам руку!
І дружна у шлях
Бязбоязна пойдзем
Варогам на страх.

Чаго нам пужацца?
Бо пойдзе нас шмат,
Бо лёс наш агульны,—
Дай руку нам, брат!

Мы ведаем добра
Дарогі праз лес,
Мы ноччу ня зблудзім,
Не здрадзіць нас бес.

За шчасьцьце людзкое,
За долю сваю
Падсобіш нам, браце?
Дай руку тваю!

---

# Справа паняволеных народаў і шляхі беларускага адраджэньня.

(Працяг).

Беларускае адраджэньне (паскольки справа датычацца шырокіх колаў жыхарства)—зьявішча нядаўнага часу, яно—дзіця нашага веку.—Як акцыя, агарнуўшая шырокія колы беларускага грамадзянства, нашае адраджэньне—дзіця рэвалюцыі. Палітычная лінія справы выяўлялася арганізацыяй—„Беларуская Сацыялістычная Грамада“.

З канца 17, потым у 18 годзе Сац. Грамада раскалолася на шэраг партыяў. Гэта была ня столькі дыфэрэнцыяцыя палітычнай думкі, сколькі капіроўка палітычных узаемаадносін, склаўшыхся ў Расеі і на Украіне.

Ўсе лічыліся з тым, што адзіным клясам на Беларусі (які амаль адзін захаваў поўнасьцьцю свае нацыянальнае абліччa і быт) зьяўляецца сялянства.—Распрацоўваючы свае праграмы, ўсе партыі мелі на мэце так або інакш, у той або іншай камбінацыі абслугоўваць яго інтэрасы.—Нават галоўнае пытаньне, на якім у нашыя часы звычайна адбіваецца разыходжаньне палітычнай думкі (пытаньне Радавай Улады), прыймалася ўсімі; пры чым дыктатура разглядалася: аднымі—як рабоча-сялянская, другімі—як працоўных масаў, трэйцімі—як нацыянальная. Усе групіроўкі, ў выпадку рэальнай пастаноўкі справы, мелі на відоку амаль адзін і той-жа контынгент грамадзян, якому (як адпаведнай за дзяржаўнае будаўніцтва клясы) належала выяўляць права на прэдстаўніцтва ад імя Беларусі. Справа „разыходжаньня“ больш датычылася персанажаў-асоб, чым істоты праграм. Так было спачатку. Цяперака дыферэнцыяцыя адбываецца запраўды. Нажаль, у нас яшчэ не атрыманы апошнія часопісі і бюлетэні, ў якіх было абецана распрацаваньне праграмаў выкрысталізоўваючыхся груп, і таму лічым патрэбным, покуль што, ўстрымацца ад крытыкі іх папярэдніх праграм. Пачакаем, што яны скажуць цяперака. Ў далейшым будзем разглядаць адзначыўшуюся тактыку гэтых груп.

## РЭВАЛЮЦЫЯ І СПРАВА БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭНЬНЯ.

Уцелаішчэньне справы беларускага адраджэньня беспасярэдня зьвязана і замацавалася дзякуючы рэвалюцыі. Апошняя

скасавала варажы да беларускай справы апарат царскага ражыму. Скасаваўшы правы на вялікую зямляўласнасьць, рэвалюцыя зліквідавала тыя элементы, якія дамагаліся наперакор нашаму сялянству, спрэчацца за правы на прадстаўніцтва ад імя Беларусі. Рэвалюцыя дала грунт для справы беларускага адраджэньня. Гэта было зразумела для пераважнай большасьці беларускіх нацыянальных грамадзкіх працаўнікоў, і таму беларускае грамадзянства (калі ня лічыць даўно ўлагоджанай Слуцкай успышкі) не вяло паміж сабою запраўднай сацыяльна-палітычнай барацьбы. Балахоўскія і іншыя бясчынствы на Беларусі—гэта не беларуская акцыя, гэта баламуцтва, зробленае рожным збродам па загаду і за кошт чужаземнае дзяржавы.

Беларусы стараліся па магчымасьці ня траціць свае сутычнасьці з рэвалюцыяй, што было даволі трудна асягнуць і ўтрымаць, бо справа беларускага адраджэньня ня мела ў шэрагах сваіх адэптаў—чыньнікаў імёнаў, карыстаючыхся ўплывам сярод правадыроў рэвалюцыйнага руху.

Раскіданыя палітыкай царскага ўраду амаль па ўсёй Расеі (атрымаўшыя адпаведную адукацыю) сыны Беларусі хутка трацілі сувязь з Бацькаўшчынай. Прамысловасьць і адпаведныя групаваньні рабочых і іх арганізацый былі ў зачатку. І таму к моманту рэвалюцыі беларуская справа ня мела свайго агульна прызнанага жыхарствам аўтарытэтнага уплывовага ядра. Справа пачалася з азоў. Людзі вучыліся на справе, ішлі наўгад, вобмацкам. Яны інстынктыўна зрабілі стаўку на рэвалюцыю.

## СПРОБЫ ПРЫСЛУХАЧОЎ Б. Н. Р. ЗЬВЯЗАЦЦА З РЭВАЛЮЦЫЯЙ.

Мы бачым, як ў 17-18 г.г. нарыхтоўваецца дэлегацыя ў Смольны да вайсковага камісара і ў стаўку да Бруевіча і Крыленкі. Дэлегацыя дамагаецца арганізацыі беларускага войска. На чале дэлегацыі Мамонька*). Дэлегацыя прымаецца,

*) Мамонька, высунуты февральскай Рэвалюцыяй,—даволі добры „хвараючы на партыйнасьць“, бунтар. Яго мінус—няпрывычка лічыцца і браць пад увагу ўсіх, падыходзячых да разьвязаньня справы або акцыі, чыньнікаў і таму няздольнасьць прадугледзяць раўнавагу, знайсьці кампраміс, здавальняючы сучасныя патрэбы і далейшы росквіт справы. Мамонька, як той „круці Гаўрыла“, бярэцца за разьвязаньне „на свой манер“ любой справы і заўсёды „перасольвае“—ўскладае на плечы рэпразэнтуемых непамерныя і непасільныя заданьні, што развальвае, а не ўзмацоўвае справу.

даецца прынцыповая згода. Пачынаецца гутарка аб канкрэтызацыі справы. Мамонька „загібае“... Вынікам зьявілася, замест супрацоўніцтва, недавер’е, якое выявілася ў разгоне ўсебеларускага зьезду.

Размовы далей цягнуцца ў Маскве і Кіяве.

У 1919 г. урад Б. Н. Р. бадзяецца па-замежамі, але шуканьне кантакту працягваецца (справу вядзе Бадунова). Налажваецца супрацоўніцтва і супольнае змаганьне супроць Польшчы. У 1920 г. Б. Н. Р. расколваецца. Урад праз некаторы час складае дэлегацыю (Захарка, Маркевіч) ў Маскву. Вядзецца ў цацягу больш месяца (з перарывамі) падгатоўчая размова. Вынікі гэтых размоў адзначыліся ў час Савецка-Польскіх перагавораў у Рызе. Дэлегацыя ад Р. С. Ф. С. Р. чытае дэкларацю, ў якой В. Ц. И. К. зцьверджае, што ён вызнае самаакрэсьленьне украінскага і беларускага народаў. З гэтым згаджаецца і польская дэлегацыя. Але ў складзе дэлегацый няма прадстаўнікоў ад Беларусі!—Што гэта значыць? Наступае адпаведны момант. Урад Б. Н. Р. адчуў, што пара здымаць сваю дэкларацыйную вопратку.

## ХІСТАНЬНЕ ЎРАДУ Б. Н. Р.

Урад, зьбіты з толку інфармацыямі Захаркі, ня ведае, што яму рабіць.—На каго абаперціся? Бельдэрынзгофская Канферэнцыя прайшла няскладна (дзякуючы ноце тагочаснага старшыні ўраду ў справе літоўска-савецкага міру), Літва не згадзілася дапусьціць дэлегацыю Б. Н. Р. на перагаворы.

Заручыцца падтрымкай Прыбалтыкі Б. Н. Р. ня здолела. Грунт працы і праграма чыннасьці не падгатаваны. Увесь час бралі прыклад з Укр. Нар. Рэсп., а як прышлося рабіць па свайму пачыну, то „пораху“—зваротлівасьці і не хапіла. Усё-ж такі пачынаюцца паасобныя перагаворы з Польскай і Савецкай дэлегацыямі.

Палякі **ўгаварылі... ўстрымацца** з падачай заявы аб жаданьні Ўраду Б. Н. Р. узяць удзел у перагаворах: „аб чым, панове, ходзіць“? „мы самі „**панскія**“ інтэрасы абаронім“. **Паслухаліся,—спазьніліся і справу прайгралі.** А палякі запраўды абаранілі... **панскія** інтэрасы ў Заходняй Беларусі. Рыская ўмова была зроблена без беларусаў, ня гледзячы на тое, што права быць гаспадаром свае долі, суверэннае права на самаакрэсьленьне беларускага народу было прызнана.

Маральная адказнасьць за Рыскі падзел, адказнасьць за бяздзейнасьць ляжыць і на Ўрадзе Б. Н. Р.

Урад прадаўжаў сваё дэклярацыйнае існаваньне, што было магчыма дзякуючы ўмове з Літвой, зробленой пасля авантуры Жэлігоўскага.

## ЗЬБІРАНЬНЕ СІЛ РЭВАЛЫЦЫЙНЫМ МЕНСКАМ.

Трэба зазначыць, што справа рэвалюцыйных урадаў у Беларусі таксама з пачатку ня клеілася. Ня здолеў утрымацца ўрад Жылуновіча, а таксама мала што карыснага для Беларусі зрабіў Літбел.

Рэальныя вынікі справа беларускага адраджэньня пачала даваць з 1920 году, ад часу ўтварэньня Радавай Беларусі ў Менску.

К гэтаму моманту ў распараджаньні Ўраду быў таксама вельмі малы нацыянальна сьвядомы актыў, якога ледзьве выстарчала на 2—3 воласьці, каб як належыць задаволіць нацыянальна-культурныя патрэбы мяйсцовага беларускага жыхарства.

Робіцца ў пачатку 20 году прапазыцыя беларускім с.-р. утварыць беларускі Рэвалюцыйны Камітэт на парытэтных падставах з беларускімі камуністамі. Ад белар. с.-р. вядзе перагаворы ізноў той-жа Мамонька. Прапануецца пачынаць з малога. Раскінуць беларускую справу на 6 паветаў, які абшар пры максымальным напружаньні можна было-б спадзявацца абслужыць беларускімі нацыянальна-сьвядомымі сіламі. Мамонька дамагаецца этнаграфічных мэтаў. Яму кажуць, што гэта, ў залежнасьці ад волі жыхарства, можна будзе пасьля зрабіць. Не,—ня згодзіўся і выехаў па-замежы Бацькаўшчыны.

Менск пачынае зцягваць і звязываць з цэнтрам усе, раскіданыя па абшарам Саюзу, нацыянальна-культурныя і рэвалюцыйныя сілы, а разам з тым—бібліатэкі, архівы і культурныя установы і г. д. У 1923 годзе Менск разварачывае сваю працу яшчэ на дзьве этнаграфічна-беларускія губэрні. Гэты факт робіцца прэцэдэнтам для бел. с.-р., астаўшыхся на Бацькаўшчыне. Склікаецца канферэнцыя б.с.-р., якая выказывае здавальненьне працай Ураду Б.С.С.Р.,—выказывае даверые кіруючай партыі і лічыць далейшае асобнае існаваньне партыі б.с.р. непатрэбным.

**Увага.** Мамонька і Грыб, прысвоіўшыя сабе (ня гледзячы на пратэсты) правы бюро Ц К. партыі, не згаджаюцца з пастановай партыйнай канферэнцыі і прадаўжаюць па-замежамі Бацькаўшчыны свае безадказныя выступленьні.

## ВЫНІКІ ПРАЦЫ УРАДУ Б. С. С. Р.

Менск, праводзячы адбудову зруйнаванага вайною краю, прадаўжае выконываць справу беларускага адраджэньня.

Беларуская мова зрабілася абавязковай дзяржаўнай урадовай мовай, на якой павінна праводзіцца як адміністрацыйная перапіска і чыннасьць, так і арганізацыйная партыйная і агульна-грамадзкая праца сярод беларускага жыхарства.

Ва ўсіх школах беларуская мова абавязкова (ў школах нац.-меншасьцяў—гэбрайскіх, польскіх, расейскіх, латышскіх, нямецкіх і інш.— як прадмет).

**Увага.** Школ на 1925—26 год было 4279, з якіх школ нац. меншасьцяў—358; вучняў —351,737; вучыцялёў—8,630. 23 тэхнікумы, 39 ніжэйшых фахавых школ, 4 ВУЗ'А, у якіх налічваецца 4251 студэнт, 427 сяброў акадэмічнага пэрсаналу. (Даклад Сав. Нар. Кам. Б. С. С. Р., стр. 137).

Беларусь атрымоўвае свае нацыянальнае аблічча.—Нацыянальны склад у выбарных радавых установах: беларусаў—69,3%, гэбраяў—11,9%, палякаў—3,3%, расейцаў — 10,%, інш.—4,9%.

**Увага.** Процант беларусоў: у В.Ц.К.—40,4; у акруг. Выканкомах—65,1; у райён. Выканкомах—80,2; у гарад. саветах—39,4, у сель. саветах—91,4. (Даклад С.Н.К. Б.С.С.Р., стр. 160).

Выбіраючы прамых налогаў з гаспадаркі ў сярэднім 12 р. 17 кап. (што на ядака складае 2 р. 25 кап.) і аслабаніўшы ад падатку 20% бяднейшых гаспадарак, Урад зьвяртае жыхарству на адну душу: . . . . на асьвету — 3 р. 42 кап.
на ахову здароўя — 1 „ 10 „
на землеўпарадк. — 1 „ 48 „
6 р. — кап.*)

Гэта знача, што з іншых сродкаў на культурна-гаспадарчыя патрэбы жыхарства на душу насельнасьці адпускаецца больш, як у два с паловай разы, чым выбіраецца прамых налогаў.

*) Час. „Савецкае будаўніцтва“ № 1. А. Адамовіч стр. 5 і 14.

Прадукцыя краіны падышла к асягненьням да-вайсковага часу, а ў некаторых галінах перавысіла іх. Агульная вытварчасьць усей цэнзавай прамысловасьці за год павялічылася на 59,5%; пры чым чысты прыбытак, складаючы $3^1/_2$ мільёны рублёў зьвернуты на палепшаньні абсталяваньня фабрык і заводаў. У 1925-26 г. усяго затрачана на прамыслов. пабудав. і абсталяваньe 5.795.70 руб., у 26-27 маюць на мэце выдаткаваць на пабудову прамысловасьці каля 12 міл., пры чым з агульна Саюзнай касы будзе адпушчана 10,000,000 руб.*)

У справе сельскай гаспадаркі, апроч усяго іншага, праводзіцца велізарны (разлічаны на 15 гадавы тэрмін), мэлія рацыйны плян па асушцы 1,800,000 дзесяцін балот, пры чым прадугледжваецца рэгуляваньне вялікіх і малых рэчак, усяго працягам 6,935 кілём.; пракапаньне магістральных канаваў даў жынею 17,605 кіл. і канаваў 2 і 3 парадку 52,816 кілём. Гэтыя работы павінны быць прызнанымі як маючыя агульна саюзнае значэньне і выдаткі на праведзеньне іх у ліку 75,000,000 руб. аднесены на агульна саюзны кошт. За год было прадастаўлена жыхаром крэдыту звыше 55 міл. р. **)

Урад даклаў свае працы і нікому не забараняе і не перашкаджае працаваць на карысьць Бацькаўшчыны.

Ня ўсё як у справе нацыянальнай, так і ў іншых галінах жыцьця дасягнута, гэта і зразумела, бо толькі Бог (як кажа біблія), стварыўшы ўвесь сьвет,—„почіл от дел своіх“. Чалавек, зрабіўшы адно, заўсёды знаходзіць яшчэ што—колечы, што таксама трэба зрабіць... Справа не вырынае так, як „Пілip з канапель“—, а на свае уцелаішчаньне патрабуе часу. На недахваты вачэй не заплюшчываюць,—пачытайце Менскія часопісі. Ніхто ня мае падставы казаць, што Менск **ня хоча** зрабіць усяго, што належыць,—усяго асягнуць **ня было магчымасьці** за недахватам сіл і сродкаў.

У сучасны момант галоўную нацыянальную установу— Інстытут Беларускай Культуры абслугоўваюць 6400 грама-

*) Справаздача Чэрвякова. Сав. Бел. № 130 і 98. Даклад С.Н.К. БССР. стр. 1, Час. „Сав. будаўн.“ № 1 стр. 9.

**) Агляд дзейнасьці С. Н. К. і эканамічнай нарады Б.С.С.Р. стр. 17 і Сав. Бел. № 92 сёл. г.

дзян, якія, па належна распрацаваным інструкцыям, зьбіраюць народныя творы і песьні, падгатаўляюць матэр'ял для укладаньня (карыстаючыся жывой мовай) тэрміналёгіі. Шэраг камісій абследывае мінулае жыцьцё Бацькаўшчыны, вядзе досьледы недраў зямлі і яе „адзеньня“ і жыўнасьці.

Падгатаўляецца далучэньне да Радавай Беларусі Гомельшчыны, Себяжчыны, Невельшчыны і Вяліжшчыны. Нададзенае Менску справай беларускага адраджэньня ён уважліва прыняў, узгадаваў і прыўмножыў. Яго бязупынная праца на карысьць беларускага народу мае права на ўдзячнасьць.

Гушчы беларускага грамадзянства гэту ўдзячнасьць Менску зрабілі.—Па-перш тым, што на беларускіх абшарах, рэпрэзэнтуемых Менскам, у згодзе і па яго загаду працуе пераважная большасьць—амаль усё мейсцовае жыхарства і ў першую чаргу беларускія нацыянальна-сьвядомыя колы грамадзянства.—Па-другое тым, што масы этнаграфічна беларускага, апынуўшагася па-замежамі асягненьня Менску, жыхарства і пераважная большасьць, высунутых гэтым жыхарствам, арганізацый лічыць Менск сваім старшым братам, жывым сьведкай здольнасьці і права беларуса быць гаспадаром на сваёй Бацькаўшчыне—сваімі рукамі каваць сваё шчасьцьце.— Аўтарытэтныя баларускія прэдстаўнікі, навет з трыбуны варшаўскага Сойму, даволі адкрыта зазначылі, што беларускае жыхарства, пагвалчанае ў сваіх правох акупантамі, пакладае свае надзеі на Менск і чакае яго адпаведнага слова ў абарону сваіх паняволеных, пакрыўджаных, прыгнечаных братоў.

Гэткую ўдзячнасьць Менску за працу і сьведчаньне яго ролі ў справе беларускага адраджэньня зрабіла, ў урачыстай форме, і 2-я Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Бэрліне.

## 2-я БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНА-ПАЛІТЫЧНАЯ НАРАДА І ЯЕ „ГАНЬБІЦЕЛІ“.

У палове кастрычніка мінулага году па ініцыятыве аўтарытэтных агульна грамадзкіх беларускіх арганізацый Латвіі, Літвы і Чэхаславаччыны, па папярэдняму абгавору з прэдстаўнікамі Заходняй Беларусі, была склікана 2-я Белар. Нац.-Паліт. Нарада. Заслухаць пастановы Нарады, быць сьведкамі голасу грамадзянства, прыбыла з Менску—**жывая совесьць беларускага народу**—лепшы песьняр старэйшага беларус-

кага нацыянальна-палітычнага пакаленьня Янка Купала, лепшы песьняр беларускага маладняку Міхась Чарот і зьвязваючы старэйшае з маладзейшым--беларускі пісьменнік Цішка Гартны·

Галоўная мэта Нарады—беларускія працаўнікі, маючыя ў некаторай меры фармальнае права адносіць сябе да старэйшага беларускага палітычнага пакаленьня і адчуваючыя на сабе маральную адказнасьць за чыннасьць гэтага пакаленьня, пажадалі высьветліць сучаснае становішча справы беларускага адраджэньня і адзначыць кірунак і чарговую тактыку, якія, з большай пэўнасьцю, маглі-б забясьпечыць беларускаму грамадзянству пляновае асягненьне як яго відавочных агульна чалавечых правоў, так і паляпшэньне дабрабыту шырокіх масаў і, ў першую чаргу, беларускага сялянства, як падставы, на ўзмацаваньні якой грунтуецца справа беларускага адраджэньня.

**Нарада сказала,** сьцвердзіла сваёй рэзалюцыяй тое, што відавочна адчуваюць і гавораць гушчы беларускага жыхарства:

1) Ні Ліга Нацый, ні агулам чужынцы (ў тым ліку і прыяцелі беларусоў) не загатавалі „манны нябеснай“ беларускаму жыхарству і што адказныя беларускія працаўнікі ня маюць падставы спадзявацца на праяўленьне імі актыўнасьці для **памыснага беларусам** разьвязаньня справы. 2) Польшча сыстэматычна руйнуе беларускую справу і праводзіць нечувалыя зьдзекі, надужыцьці і мардаваньні над паняволеным, акупаваным ею, беларускім жыхарствам. 3) У родным Менску Улада штодзённаю пляновую безупыннаю працаю праводзіць: а) родную справу беларускага адраджэньня, б) адбудову зруйнаванай вайною Бацькаўшчыны, в) паляпшае дабрабыт нашага працоўнага жыхарства.

Кіруючыся гэтымі думкамі, Нарада зазначыла—**адзіным запраўдным беларускім Урадам зьяўляецца сучасны Менск.** Старшыня Ураду Б.Н.Р. зараз-жа ў нечарговай заяве давёў да ведама прынятую рэзалюцыю аб спыненьні чыннасьці і існаваньня Ўраду Б.Н.Р.

Нарада вызнала правідловым замацаваць: 1) сувязь беларускага руху і спараваць долю белорускага жыхарства з дасягненьнямі Рэвалюцыі і нададзеным ему ладам, ажыцьцёвіўшым і стварыўшым як запраўдны грунт для уцелаішчаньня росквіту справы беларускага нацыянальнага адраджэньня, так і форму ўлады, аказаўшуюся па сілам (для

прэдстаўніцтва ў ёй і апанаваньня ўрадавым апаратам) маладому беларускаму руху, 2) прыемственасьць беларускага адраджэнчага рамантызму з рэалістычнай творчай працай сучаснага Менску. Нар. зазначыла, што актыўнае змаганьне супроць сучаснага Менску ёсьць здрада справе беларускага адраджэньня.

**Што гавораць „ганьбіцелі“ Нарады?** Якія **перспэктывы** яны ставяць для справы беларускага адраджэньня?

Як яны спадзяюцца рэальна дапамагчы вызваленьню прыгнечанных, паняволеных Польшчай братоў?

Ганьбіцелі стараюцца абыйсьці істоту справы.—На гэтыя запытаньні ў іх няма адказу.

Больш таго, яны (амаль усе) навет не адважваюцца адркыта выступаць супроць Менску, вертаючаму краіне яе нацыянальнае аблічча.

Яны шукаюць „як і чым сьцябануць каня, а тым часам пачалі сьцябаць па аглоблях“; пачалі зводзіць, не заслугоўваючыя ўвагі, пэрсанальныя і партыйныя разрахункі з пасобнымі ўдзельнікамі Нарады.

Першымі „ганьбіцелямі“ Нарады зьявіліся сябры самазванага бюро белар. с.-р. Яны **„абвінавачваюць“** найбольш актыўных удзельнікаў Нарады, што падгатаўлялі сабе „гучную падарож“ у Менск. Ну, калі навет і так,—што тут дрэннага?! А я вам скажу, што агулам ёсьць дрэннага. Дрэнна тое, што Вы, г. Грыб, Мамонька і Ко, запамятавалі гісторыю партыі, сябрамі (і навет бюро) якой вы прадаўжаеце называцца. Запамятавалі, што партыі было прапанавана камуністамі Беларусі утварыць супольны рэвалюцыйны выканком. Запамятавалі, што партыя падавала заяву аб далучэньні да III інтэрнацыяналу. Запамятавалі, што партыйная канферэнцыя выказала даверые кам. партыі Беларусі і пастанавіла сябе зліквідаваць. Запамятавалі, што партыя прызнала дыктатуру. І ніяк не здолееце зразумець, што дыктатура можа праводзіцца толькі адным цэнтрам. Вы навет забылі і тое, што інтэрнацыянал, да якога вы цяперака імкнецеся належаць, таксама супроць актыўнай барацьбы з Саветамі, супроць інтэрвэнцый. Нам памятуецца вашае жаданьне—быць на чале беларускай улады,—як вы дамагаліся дыктатуры партыі ў Урадзе і—пэрсанальнай дыктатуры ў партыі (прыпомнім вашу „крылатую фразу“): „лепш адзін леў, чымсь стада бараноў“.

Вы, як той прынц, надаўміўшыся сватаць кітайскую

княжну, прапануеце пачакаць, покуль вы зробіце шырокія арганізацыі на мяйсцох, покуль вы набярацеся сіл... Кіньце, г. Грыб, Беларусь не патрабуе банапартызму.

Вы, „ўчарашні“ супрацоўнік Менска, перайшлі да безадказнай апазыцыі, і навет не заўважылі, як апынуліся ў стане ворагаў беларускай справы. Вы, г. Грыб і Ко, зьмянілі вехі. Вы цяперака ўступілі на адну з тых сьцежак, якія ўсе скіраваны да „Рыму“—да контр-рэвалюцыі. Шчаслівай „гучнай падарожы“! Паўлюкевіч ужо атрымаў загад—плясьці вам „лаўровы вянок“.

**Другая група,** выявіўшая варажасьць да вынікаў Бэрлінскай Нарады, належыць да тых беларускіх колаў, якія, будучы выхаваны ў польскай культуры, не пажадалі мірыцца з перамогай у беларускай справе культурных тэндэнцый усходняга кірунку.

Разумеючы арганічную супярэчнасьць паміж патрэбамі справы беларускага адраджэньня і каланізацыйна-імперыялістычнымі тэндэнцыямі Польшчы, яны не адважваюцца стаць адразу пад польскі штандар.—Шукаючы сабе „зашчытнага колеру“, яны імкнуцца раздабыць новую аперацыйную базу (як падставу для антытэзы Менску), адкуль можна было-б аспарываць у Менска яго права на прэдстаўніцтва нацыянальна-дзяржаўных інтэрасаў—права выяўляць суверэнітэт беларускага народу.

Ідыолёг гэтай групы А. Станкевіч (у спецыяльным паседжаньні „на пярэдадню“ Бэрлінскай Нарады) запэўніў, што вызнае сучасны Менск асяродкам беларускай справы, пры чым зазначыў, што мае свае „але“. Хутка потым (відаць у зьвязку з „вачавістымі доказамі“) пачаў пісаць, што Менск ёсьць „фальварак Масквы“ і дамагацца, каб Коўна зрабіла беларусам свой, хоць-бы і штучны цэнтр...—„стадолу для дароднай жывелы“. Ведаеце, ксёндз Адам, вы крыху спазьніліся!

Да справы наладжаньня беларуска-літоўскага супрацоўніцтва, стораны павінны падыходзіць з павагай, шчырасьцьцю, яснасьцьцю мэтаў і правідловым разрахункам сіл. Да гэтага змушаюць ня толькі шэраг, першай вагі, супольных інтэрасаў, роўным чынам—гістарычныя традыцыі і вымагаючае супольнай чыннасьці пачуцьцё пакрыўджаных народаў. Беларусы і літоўцы зышліся адны з другімі у нядолі—іх мусіць яднаць гора пагвалчаных.

Ксёндз Адам! Пачытайце ацэнку вынікаў вашай працы ў польскай віленскай часопісі „Słowo“ № 107 сёл. г. Гэтая часопісь, прыводзячы да аднае „купанькі“ Паўлекевіча с „Грамадзкім Голасам“, Вярнікоўскага з „Беларускім Словам“, „Сялянскі Саюз“, беларускіх хадэкаў на чале з А. Станкевічам, —аб усіх разам вось што піша: „Іх акцыя сьведчыць аб новым кірунку ў беларускай справе і выяўляе рэальную магчымасьць беларускага руху ў Польшчы“... (Гэтыя беларусы) „Успомнілі, нарэшце, аб грамадзкіх абавязках з агульна дзяржаўнага пункту гледжаньня і прызналі бясцэльнасьць і шкадлівасьць усялякіх анты-дзяржаўных пачынаньняў“... „Беларусы пачалі арыянтавацца на ўласныя сілы“... „якую арыянтацыю можна акрэсьліць як pół drogi да арыянтацыі на Варшаву“.

Грам. Станкевіч! Што вы можаце адказаць супроць такой ацэнкі, правадзімай вамі беларуска-літоўскай акцыі ў Віленскай справе?! Наўдаку, каб гэта здаволіла літоўскіх патрыотаў, бо ня можа-ж у разрахунак Літвы ўваходзіць дапамога захватчыкам Віленшчыны. Як, гр. Станкевіч, назваць такую „барацьбу“ супроць акупантаў, якая уводзіць разнабой сярод змаганьнікаў, якая паралізуе іх волю да абароны сваіх правоў?

Назавеце, гр. Станкевіч, гэта сваім іменем і... памятйце, што так завецца ваша чыннасьць, ваша „акцыя“ па вызваленьню беларуска-літоўскіх зямель з-пад акупацыі Польшчы.

Для абароны літоўскіх інтэрасаў у Віленскай справе зусім выстарчае мець на абшарах Літвы адзін Літоўскі Урад і зусім тут не патрэбны якіясьці штучныя цэнтры—вібрыоны беларускіх урадаў. Дзеля чаго падбіваць, ганяцца за вялікім, калі адчуваецца недахват у малом.—Трэба даць магчымасьць утварыцца звычайным грамадзкім арганізацыям. Трэба супольна з імі абмяркаваць патрэбы моманту і распрацаваць плян па асягненьню чарговых беларуска-літоўскіх заданьняў.

Беларусы, шануючы літоўскі народ і паважаючы праявы яго дзяржаўнага будаўніцтва, ў праве спадзявацца на адпаведныя адносіны ў стасунку да выніку свайго дзяржаўнага будаўніцтва.

Літва, шукаючы рэальнай сілы для памыснага разьвязаньня Віленскай справы, павінна прызнаць Менск дзяржаўным беларускім цэнтрам і навязаць з ім стасункі. Побач з

гэтым трэба стварыць належныя варункі для росквіту справы беларускага (хоць і малога лікам) жыхарства Незалежнай Літвы, і тым даць перспэктывы — зьвярнуць сабе прыхільнасьць белар жыхарства Літвы акупаванай.

Найбольш злосны пратэст супроць вынікаў Бэрлінскай Нарады агалосіў „маршалак“ Крэчэўскі, бо, бачыце, Нарада не заўважыла і не пажадала лічыцца з нізайшоўшым на яго „міласьцьцю Божаю“ жаданьнем выяўляць суверэнныя правы беларускага народу.

Чаго дамагаецца П. А. Крэчэўскі? Дазвольце, дзядзька Пётра, адказаць за вас: „Я хачу даць справаздачу беларускаму народу аб сваёй“ чыннасьці за час бадзяньня па закардонам. Ну, і добра, дзядзька, рабеце—друкуйце вашу справаздачу ў „Замежнай Беларусі“,—хто пацікавіцца, той прачытае.

Але гэта вас не здавальняе. Вы, як тое ўзбентэжанае дзіцянё, пачынаеце выяўляць вашы „капрызы“. Вы прымаеце асанку і ўрачыста зазначаеце: „Хачу рабіць справаздачу без непатрэбных сьведкаў,—хачу, каб спачатку адышло па замежы этнографічнй Беларусі як польскае, так, і маскоўскае войска.

Вось з гэтага моманту і пачанынаецца выяўляцца ваша якасьць,—вы надаеце „шмат клопату“, вядома, не сабе („як будучаму справаздатчыку“), а другім. З гэтага часу пачынаецца ваша блуканьне ў паветры. Тут раптам выскаквае з боку Базыль Захарка і пачынае падзадорваць: Пётра, ніштo, правідлова, скулі грамчэй, абрыдне—паслухаюць“... Б. Захарку я разумею: яму трэба ехаць к цесьцю ў маёнтак, да чалавек ён старапелы, палохаецца, каб канарыкі з дэфензывы залішне не пацікавіліся яго пераездам. Вось ён і стараецца „паддаць пылу“. Ну а вашы, Пётра, гдзе маёнткі? чаго вы даецеся ў адзнаку?

Вашы зацеі і мрыі ў справе дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі—сьмеху варты; нажаль, яны кампраметуюць ня толькі вас, а і справу беларускага адраджэньня. (Гэта вам не першыня: прыпамятуйце ваш прыезд і чыннасьць у Коўні, ваш „разрыў“ з Літвою)...

Цяпер, рассылаючы свае паведамленьне аб тым, што „Ільля Мурамец, прасядзеўшы сіднем трыццаць тры гады, нарэшце надумаўся зварушыцца з месца“ і узяцца за працу—

выдаваць „Замежную Беларусь“. Вы пішаце: „Гістарычны заняпад беларускага народу, ня гледзячы на рэвалюцыю і адраджэнчы перыад“...„выкінуў замежы Беларусі частку палітычнай эміграцыі, якая апынулася ў Празе Чэшскай і там запалілілася, па прыкладу свайго продка“, (Скарыны) „няўпынным імкненьнем даць свайму народу веду дзеля культурнага і дзяржаўнага адраджэньня“... „Заходняя Беларусь ня можа зрабіць гэтага па варункам матэрыяльным, а Ўсходняя—па варункам палітычным“.

Адным словам, стыль хоць куды—тут і слаўныя продкі, і веда, і Пётра Крэчэўскі. Усё было-б добра, калі было-б правідлова: Па-перш, ніхто вас, як Пётру Крэчэўскага ня змушае быць ў эміграцыі.—Вам добра ведама, што яшчэ ў 1923 г. вы, разам з другімі беларускімі працаўнікамі, дасталі амністыю і, ў выпадку жаданьня, маглі вяртацца ў Менск, гдзе спакойна і добра працуе так-сама быўшы маршалак Рады Б.Н.Р. грам. Я. Лёсік.

Па другое, ў Менску ня толькі даецца веда, а разам з тым праводзіцца вялікая праца, як у справе беларускага адраджэньня, так і для ўздыму дабрабыту краю.

Вы, Пётра Крэчэўскі, баіцеся ня Менска, вы баіцеся, ведаеце каго?—самога сябе. Вы жывеце за „апушчанымі шторамі“ і вам не пажадана, каб дзенны сьвет развеяў мрыі вашай драмоты. Вы там на Эрбіновай адчуваеце сябе вялікім чалавекам (як той кажа „вершителем судеб“), там вы за панебрата з Муссоліні, Чэрчылем, Пілсуцкім і навет Масарыкам; ці можа „беры па выше“—вы, як той Людовік XIV, можаце сказаць: „Беларусь—гэта я, а Б. Захарка так сабе састаіць пры мне“.

А тут,—на табе! прапануецца ехаць у Менск і брацца за **простую** рэальную працу... Успамінаюцца акцызная камера, бровар, шклянкі для пробы сырцу, спіртамер... „Брр...хоцьбы ня прачнуцца“. „А, Муссаліні! гэта ты? надта прыемна... Вось тут і Пілсуцкі. Бачыш,—нашага паўку прыбыло. Прысяцьце, даражэнькія, „як падабалась вам „мая сталіца“?...

Вы баіцеся прачнуцца, баіцеся глянуць у люстэрка на свае аблічча!

Мяне ірытуе ня столькі тое, што зрабіў абмылку працаўнік (гэта трапляецца з усімі), мяне ірытуе, што зрабіў нетактоўнасьць, лічачы сябе песьняром, Пётра Крэчэўскі.—

Пачуцьцё песьняра не падсказала вам усю ўрачыстасьць гістарычнага моманту ў беларускай справе, што мела выявіць Бэрлінская Нарада.

У Бэрліне сталася ўзаемнае прызнаньне і паразуменьне паміж старэйшым беларускім палітычным пакаленьнем—гістарычнымі рамантыкамі і маладзейшым—рэальнымі чыннікамі справы беларускага адраджэньня. У сьведкі гэтага прымірэньня маладзейшыя (кіруючыя дзяржаўна-грамадзкім жыцьцём) паклікалі ўсімі прызнаных лепшых беларускіх песьняроў.

Бэрлінская Нарада стварыла прецэдэнт, выходзячы за рамкі беларускасьці.—Тут першы раз у незалежных абставінах пакаленьне, ўзгадаванае на агульна дэмакратычных традыцыях, зышлося з пакаленьнем, выхаваным на засадах Рэвалюцыі.

Гэтай братэрскай згодзе палітычных пакаленьняў (што ў жыцьці трапляецца вельмі рэдка) нашы ўнукі будуць складаць песьні. І вы, песьняр П. Крэчэўскі, сваім сэрцам гэта не адчулі! Вы „маршалак“ П. Крэчэўскі, гэтую ўрачыстасьць беларускага гістарычнага моманту сапсавалі. Вы хочаце адабраць ад беларускага народу адну добрую традыцыю—складаць аружжа перад уцелаішчанай для карысьці беларускага народу праўдай, як гэта зрабіла Вам у свой час Найвышэйшая Рада. Памятуйце мае слова: за вашы ўчынкі (ў зьвязку з Бэрл. Нарадай) ваша совесьць не раз запатрабуе вас да адказнасьці. Чыннікі Бэрлінскай Нарады занадта пераконаны ў правідловасьці свайго ўчынку, каб зьвяртаць увагу на „шыпеньне“ не ачуняўшых і бесчуўственных.

———

Бэрлінская Нарада, праклямаваўшы згоду беларускіх палітычных пакаленьняў, разам з тым стварыла прыемственнасть у працы гэтых пакаленьняў. Згодна з волею жыхарства і патрэбамі беларускай справы, Бэрл. Нарада зрабіла афармленьне сувязі (ня толькі гэнэтычнай, а і ідэолегічнай) справы беларускага адраджэньня з Рэвалюцыяй. Нарада лічыла, што толькі ўлада працоўных можа запэўніць, што ў камплексе адпаведных чыньнікаў дзяржаўнай палітыкі на Беларусі будзе браць удзел нацыянальная беларуская кляса,—толькі рабочы, запраўды, згодзіцца праводзіць дзяржаўнае будаўніцтва ўсуплаш з нашым сялянствам для задаволеньня як сацыяльна-гаспадарчых яго патрэб, так і патрэб справы беларускага адраджэньня.

Ці трэба дзівіцца таму, што гэты рашучы крок, гэты покліч да міру і згоды сярод беларускага грамадзянства спаткаў няпрыхільны водгук, выклікау дыфэрэнцыяцыю паміж беларусамі. Гэта можна было прадбачыць. Цяпер трэба ўтрымаць нарадзіўшуюся апазыцыю ў межах адказнасьці перад беларускай справай. Трэба зьвярнуцца да пачуцьпя патрыётызму працiўнікоў Нарады і прапанаваць ім цьвяроза прадумаць сваe вырашэньне і тактыку; прадумаць, да чаго яна можа давясьці ў працэсе свайго паступовага развіцьця.—Плянова праводзімая імі чыннасьць паставіць у будучыне на чаргу беларускага палітычнага дня такія пытаньні, якія можна будзе разьвязаць толькі братэрскай крывёй, толькі паміжсобнай бойняй.—Многапакутная Беларусь покуль што была пазбаўлена гэткай навальніцы, бо ў сваім нацыянальным камплексе ня мае настолькі моцных сацыяльных суперэчнасьцяў, каб адчуваць патрэбу у гэткіх мэтадах паміжсобнага змаганьня.

Такую безадказную пазыцыю ў стасунку да сучаснага становішча і кіраўнікоў беларускае справы пастараецца скарыстаць рознашорстны канглёмэрат імпэрыялістаў. Апазыцыянеры зробяцца новым мосьцікам для іхняй інтэрвэнцыйнай палітыкі,—зробяцца падсобнікамі ворагаў беларускага народу і разам з імі будуць каваць ланцугі няволі Бацькаўшчыне.

Адумайцеся! Не даводзьце справы (ў імя сваіх асабістых і вузка-партыйных інтэрасаў) да трагічнай разьвязкі.

Прыняцьце пастулатаў Рэвалюцыі дасьць магчымасьць разгарнуць, пашырыць кола актыўных адпаведных чыньнікаў, на аб'яднаньні высілкаў якіх будзе ў далейшым грунтавацца росквіт беларускай справы.

Шлях Беларусі толькі адзін—Беларусь адрадзілася разам з паўстаўшай Рэвалюцыяй. Рэвалюцыя (паставіўшая на чале дзяржаўнай палітыкі новыя колы грамадзянства і ўтварыўшая адпаведную іх сілам новую форму ўлады) запраўды забясьпечвае права на адраджаньне паняволеных народаў—толькі гэты шлях, урэшце рэшт, забясьпечыць волю, мір і дабрабыт нашай Бацькаўшчыны.

*Пуцята.*

*М. Бяздольны.*

# ПЕСЬНЯ ГАРАТАЯ.

Но! ты конь мой. Но! мой сівы!
Пойдзем мы гараці,—
Зямлю старэнькаю сошкай
Пераварачаці.

Глянь у поле: ўсё адлогам
Ляжыць нярухома.
І куды-ж?... Гдзе-ж тыя людзі
Жывуць—невядома.

Хто-ж іх ніўку зноў пацешыць,
Баразну прагоніць?
Хто?! Няма іх... Но, мой сівы!
Штосьць у небе стогніць.

Мы з табой тут папрацуем
Шчыра аж да ночкі.
Ты паходзіш, а я буду
Цярабіць кусточкі.

А пасьля дзярно баронкай
Добра ўзбаронуем,
Хлеб пасеем, а узімку—
З табой папануем.

А пакуль—працуй мой конік,
Я—таксама буду...
Баразной!... Куды?! Но! сівы..,
Ўсё з табой здабуду.

Пройдуць годы цяжкай мукі,
Голаду..., нядолі...
Наша праца закрасуе
Краскаю у полі.

І пачнём з табой зноў жыці,
Як ў былыя годы...
Годзе... Тпрру! Трэба ўздыхнуці
Ды папіці воды,

Бо мае ня хопіць сілы
Датрымаці сошку...
Што-ж я еў?... Што?. А нічога —
Місачку гарошку.

А што хлеба, колькі годаў
Я ня бачыў ў вочых,
Бо тут сеяліся кулі
Днямі ды па ночых.

З імі сьмерць ў крыві і дыму
Над страхамі, полем
Тут ахвяр сабе шукала
Пад снарадным воем.

Толькі кабы нам астацца
Не ўзляцець ў паветра,
Тагды добра, вытрымаем,—
Не звалімся з ветру,

А што праца,—нам не страшна!
Мы яе кахаем;
Праз яе гадзіны лепшай
Мы мо' дачакаем.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## прэзыдыуму ЦВК СССР па дакладу прэзыдыуму ЦВК БССР.

Заслухаўшы даклад тав. Чарвякова, А. Г. аб становішчы Савецкай Беларусі і дзейнасьці Беларускага ўраду, Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР канстатуе разьвіцьцё народнай гаспадаркі Савецкай Бэларусі, рост культурнага будаўніцтва і далейшае ўзмацненьне яе палітычнага становішча, якое забясьпечваецца актыўнасьцю рабочай клясы і сялянства, актыў якога няўхільна расьце, а таксама аб'яднаньнем навокал саветаў пад кіраўніцтвам кампартыі шырокіх колаў інтэлігенцыі.

Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР асабліва адзначае вялікія дасягненьні БССР у галіне правядзеньня зямельнай палітыкі і разьвіцьця сельскай гаспадаркі (павялічэньне пасеўнай плошчы, пашырэньне зямельнага фонду за лік асушкі зямлі шляхам мэліярацыі, палепшаньне ральніцтва і жывёлаводзтва, а таксама земляўпарадкаваньне 30,9 проц. зямельнай плошчы) і лічыць, што мерапрыёмствы, вызначаныя для далейшай працы ў гэтых галінах і накіраваныя да шырокага разьвіцьця земляўпарадкаваньня, мэліярацыі і культурнай тэхнікі, надзяленьня зямлёй, інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі і перасяленьня безьзямельнага насельніцтва на новыя землі, зьяўляюцца правільнымі і павінны паслабіць цяжкія вынікі аграрнага перанасяленьня Беларусі.

З здавальненьнем азначаючы значны рост дзяржаўнай прамысловасьці, забясьпечаны ў бягучым годзе сродкамі, асыгнаванымі Саюзным урадам, Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР у той-жа час лічыць патрэбным зазначыць на недахватнае аднаўленьне і разьвіцьцё мясцовай прамысловасьці, а таксама саматужнай і рамесьніцкай вытворчасьці, якія да вайны гралі, вельмі значную ролю ў эканоміцы Беларусі. Іх разьвіцьцё павінна ўзмацніць гаспадарчае становішча рэспублікі, а таксама забясьпечыць працу большай колькасьці насельніцтва і ліквідаваць беспрацоўе, якое ва ўмовах Беларусі мае асоба востры характар, з прычыны аграрнага перанасяленьня, пагранічнага становішча і налічча значнай колькасьці мястэчак.

Становішча камунальнай гаспадаркі, амаль зусім разбуранай войнамі ў цэлым шэрагу гарадоў і мястэчак, выклікае

асаблівую патрэбу далейшай напружанай працы для аднаўленьня.

Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР лічыць, што посьпехі будаўніцтва Савецкай Беларусі забясьпечваюцца правільнай палітыкай Беларускага ўраду ў пытаньнях дзяржаўнага і нацыянальнага будаўніцтва.

Паставіўшы перад сабою задачу ўцягненьня ў сацыялістычнае будаўніцтва шырокіх мас рабочых і сялян, Беларускі ўрад правільна разьвязаў пытаньне аб раёнаваньні, праблізіўшы органы ўлады да насельніцтва і забясьпечыўшы ўцягненьне рабочых і сялян у непасрэднае кіраўніцтва дзяржавай.

Улічваючы цяжкасьці нацыянальнага пытаньня ў БССР, выходзячыя з рознастайнага нацыянальнага складу яе насельніцтва, Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР адзначае, што Беларускі ўрад змог правільна вырашыць у асноўным найважнейшыя пытаньні нацыянальнай палітыкі, зьвярнуўшы адпаведную ўвагу пытаньням беларускай культуры і забясьпечыў яе далейшае разьвіцьцё. Пры гэтым Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР асабліва адзначае вялікае значэньне для спамянёнай мэты існаваньня Інстытуту Беларускай Культуры, які ў сваім далейшым разьвіцьці павінен зрабіцца беларускай Акадэміяй Навук.

Побач з гэтым Беларускі ўрад правільна разьвязвае пытаньне аб расейскай, польскай і яўрэйскай культуры і клапоціцца таксама аб тым, каб і іншыя нацыянальныя меншасьці Беларусі (літоўцы, латышы, немцы, эстонцы і інш.) атрымалі фактычную магчымасьць карыстацца ўсім, што дае нацыянальная палітыка савецкай дзяржавы (нацыянальныя саветы, школы, клюбы, газэты і г. д.) У прыватнасьці Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР ухваляе мерапрыёмствы БССР па земляўпарадкаваньню працоўнага яўрэйскага насельніцтва.

Становішча Савецкай Беларусі на заходнім рубяжы Савецкага Саюзу асабліва настойліва патрабуе далейшай напружанасьці сіл беларускага народу для эканамічнага, культурнага і палітычнага ўзмацненьня і разьвіцьця сваёй рэспублікі.

Працоўныя Беларусі ведаюць, што Чырвоная армія заклікана абараняць іх мірную працу, таму Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР упэўнены, што беларускія рабочыя і сяляне з іх урадам і на далей з такім жа каханьнем і ўвагай будуць

адносіцца да жыцьця Чырвонай арміі і да яе патрэб, дамагаючы палепшаньню яе дабрабыту і ўтварэньню добрых умоў для падрыхтоўкі арміі да вырашэньня задач, якія накіраваны да абароны межаў Саюзу ССР.

Савецкі Саюз клапоціцца аб фактычным забесьпячэньні эканамічнага і культурнага разьвіцьця Саюзных Рэспублік і надалей будзе пільна сачыць за працай і дасягненьнямі Савецкай Беларусі, і сваячасова прыдзе з патрэбнай дапамогай і падтрыманьнем.

*А Палын,*

# Падзел.

Прайшла вайна, заціхлі спрэчкі,—
дзяржавы межаў нарабілі,
народ працоўны, як авечкі,
спаміж сабою падзялілі.

Па шэрсьці, колеру і зыку
яго у стады зграмаджалі,
якбы жывёлу без'языку
ў аборы панскай разлучалі.

І кулямётаў і гарматаў
на межах ўсюды настаўлялі,
на межы тыя з родных хатаў
служыць жаўнераў разаслалі.

Ім пад прысягай загадалі
блюсьці мяжу ад чужаземца
і каб бяз літасьці стралялі
француза, латыша ці немца.

Але людзей, зямлю дзяліўшы,
забыўся, пэўна, панскі ўрад,
што чалавек тады шчасьліўшы,
калі яму усякі брат,

і што ў працоўнага народу
душа адна па ўсёй зямлі,

што ён праз межы знайдзе згоду
абы яму правы далі,

абы народам не цкавалісь
бароны, графы ды князі,
ў яго правох не бузавалісь,
іх не таптали у гразі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

І вось канец усім магнатам
народ гатуе кожны час:
народ злучыўся, як брат з братам,
куе, паночкі, меч на вас!

---

# Беларускае жыцьцё ў Літве.

## Курсы для падгатоўкі вучыцялёў пачаткавых беларускіх школ.

У зьвязку з захадамі прэдстаўнікоў беларускіх і пасобных грамадзян Міністэрства Асьветы, дало сваю прынцыповую згоду на адчыненьне каротка-тэрміновых курсаў па падгатоўцы вучыцялеў беларускіх пачатковых школ.

Праграма курсаў:

1) Літоўская мова і гісторыя,
2) Географія Літвы і Беларусі,
3) Гісторыя беларускага народу і літэратура,
4) Беларуская мова,
5) Пэдагогіка,
6) Мэтодыка навучаньня,
7) Сьпеў,
8) Гімнастыка,
9) Практычныя заняткі.

Курсы маюць распачацца 6/VIII сёл. і працягнуца да 15/IX сёл. Слухачамі курсаў могуць быць асобы, маючыя ня меней 4-х клясаў асьветы сярэдняй школы.

Лекцыі будуць адбывацца ў памешканьні Унівэрсытэту. Таксама дадзена згода адвесьці для слухачоў інтэрнат ў памешканьні студэнтаў, якое да 15-га верасьня застаецца вольным.

Пры інтэрнаце курсанты будуць карыстацца ўтрыманьнем на скарбовы кошт.

За ўсялякімі спраўкамі аб курсах—зьвяртацца ў сэкрэтарыят Курсаў: Kaunas, Vytauto prospektas, 30.

**УВАГА: Пасьля надрукаваньня вышэйпададзенага Рэдакцыя атрымала паведамленьне, што Кабінэт Міністраў ня згадзіўся на прапазыцыю Міністра Асьветы на адчыненьне бел. вуч. курсаў.**

### Добрае пачынаньне.

Рэдакцыя атрымала лісты ад гр. У. Н.—студэнта Літоўскага Унівэрсытэту, пажадаўшага скарыстаць час летніх канікулаў для азнаёмленьня з беларускім вясковым жыхарствам Літвы. Мэтай падарожы У. Н. зьяўляецца зьбіраньне народных апавяданьняў, казак, песьняў і дапамога сялянству па арганізацыі школ.

Рэдакцыя „Покліч" вітае добрае пачынаньне беларускага студэнства і шле сваю шчырую падзяку за лісты. Па атрыманьні дазволу аўтара рэдакцыя зьмесьціць гэтыя лісты ў наступных нумарох „Покліча".

## Радавая Беларусь.

## У Інбелкульце.

### Беларуская архітэктура XII стагодзьдзя.

27 мая ў камісіі беларускага стылю мастацкай сэкцыі ІБК адбыўся даклад **М. М. Шчакаціхіна на тэму —„Беларуская архітэктура XII стагодзьдзя".** Дакладчык зачытаў першую частку самастойнай капітальнай працы аб Беларускай каменнай архітэктуры—беларускай Смаленшчыны, якая ў Смаленску, як і наогул на абшары ўсёй Беларусі (Віцебск, Полацк, Горадня), пачалася ў XII ст. Дакладчык з 12 захаваўшыхся да нашых часоў каменных будынкаў XII ст. разгледзіў толькі 5, якія прыходзяцца на г. Смаленск (рэшта будынкаў—5 у Полацку, 1—у Горадні). Спачатку дакладчык сыніўся на летапісных даных, прычым адзначыў, што гэтыя

даныя іншы раз падаюць зусім неправідловыя весткі адносна пабудоў XII ст. Далей была разгледжана літаратура аб памянёных помніках (Сапуноў, Красавіцкі, Арлоўскі, Гразноў, Паўлінаў, Някрасаў) і, нарэшце, дакладчык прыступіў да разгляду пабудоў XII ст. у г. Сма ленску.

Першы будынак — царква, пабудаваная ў 1141 г. Яна была візанційскай канструкцыі трохабсідная, кубічная, шасьціслуповая. Дакладчык падрабязна затрымаўся на разглядзе гэтай пабудовы і шэрагу іншых, на іх плянах і на шэрагу вельмі цікавых архітэктурных асаблівасьцяў.

З дакладу выявілася, што на Смаленскую архітэктуру XII ст. мела ўплыў: праз Кіеў візантыйская архітэктура. Нарэшце, дакладчык зрабіў вывад, які мае ў дасьледваньні беларус кае культуры вялікую значнасьць: **архітактурныя формы раней утвараліся на Беларусі (у Смаленску, Полацку, Віцебску), адкуль яні пераходзілі ў Ноўгарад Пскоў,** а не наадварот, як запэўняюць маскоўскія дасьледчыкі.

Даклад выклікаў жывы абмен думкамі.

**Тав. Даўгяла** адзначыў, што ў той час, калі на Беларусі пачалі заяўляцца каменныя будынкі (XII ст.), паміж Беларусьсю і Кіеўшчынай былі надта варожыя адносіны, якія не давалі магчымасьці Беларусі рабіць запазычаньні на Ўкраіне; па думцы тав. Даўгялы, культурныя ўплывы натагочасную Беларусь ішлі з Захаду, якія пакуль што зусім не дасьледаваны.

**Праф. Жарынаў** таксама згадзіўся з тым, што на смаленскую архітэктуру XII ст. мела ўплыў заходня - раманская архітэктура.

**Праф. М. Доўнар Запольскі** падтрымлівае дакладчыка адносіна Кіеўскіх уплываў, якія былі ў Смаленску з тае прычыны, што тагочасная Беларусь у палітычных адносінах падзялялася на 2 паасобныя часткі: Смаленшчыну, якая мела зносіны з Кіеўшчынай і Полацка-Віцебскія землі, якія вялі барацьбу з Украінай.

*Ал. Шлюбскі.*

### Археолёгічныя экспэдыцыі.

Гісторыка-археолёгічная камісія мае правесьці сёлета чатыры археолёгічныя экспэдыцыі. Адна пад кіраўніцтвам Палікарповіча накіроўваецца на р. Сож для досьледу ізолітычных стаянак, другая, пад кіраўніцтвам археолёга Сэрбава,—у Нова Быхаўскі район для досьледу старадаўняй каменнай культуры, трэцяя, пад кіраў-

ніцтвам Аніхоўскага—для досьледу даўнейшага гарадзішча „Дзедзіно“ ў Калінінскай акрузе на р. Осьцер і чацьвёртая, самая вялікая, накіроўваецца пад кіраўніцтвам археолёга Ляўданскага для досьледу старадаўніх гарадзішчаў і курганеў па лініі Менск-Заслаўль.

Экспэдыцыя Палікарповіча ўжо выехала з Менску. Пачаліся таксама раскопкі недалёка ад г. Менску.

**Старажытны помнік.**

Гісторыка-археолёгічная камісія зьвярнулася ў аддзел камунальнай гаспадаркі з хадайніцтвам аб прывядзеньні ў культурны выгляд так званага „Менскага Замчышча“, якое знаходзіцца на ніжнім рынку ля р. Немігі. Апошнія знаходкі даводзяць, што гэтае замчышча можна аднесьці да самых даўнейшых часоў.

У сучасны момант гэты старажытны помнік зусім заняпаў. Камісія пастанавіла зрабіць на гэтым месцы сквэр з клюмбамі і захаваць каштоўны помнік ад раскопкаў і зьнішчэньня.

**Археолёгічная карта.**

Гісторыка - археолёгічная камісія апрацоўвае археолёгічную карту БССР. Карта Менскай акругі ўжо складзена.

Карта будзе выпушчана ў форме атласу з падзелам па акругах.

**Выданьні Скарыны.**

Гісторыка-археолёгічная камісія пастанавіла зьняць фатаграфічныя зьнімкі з уступленьняў, якія былі напісаны першым беларускім вучоным, перакладчыкам і друкаром Ф. Скарыной да яго выданьняў 1517 1525 г. г.

Фатаграфіі будуць зроблены ў Ленінградзе пад наглядам сябра Інбелкульту т. Некрашэвіча.

**Канцэрт беларускіх дудароў.**

У рабочым садзе гораду Барысава выклеена вялізная афіша—„Канцэрт беларускіх дудароў“.

Вечарам прышоў паслухаць і пазнаёміцца з „канцэртантамі“. Дудар Максім Сурма з вескі Бацьвінікі: ад Барысава да яе 17 вёрст.

Яму 60 гадоў. На дудзе іграе з маленства.

У мінулым годзе яны з сваім таварышом Хахаўліцкім рыхтаваліся ехаць у Парыж на выстаўку. Але ў Парыж не паехалі. Масквой-жа асталіся вельмі здаволены.

Сурма яшчэ і цяпер часта выступае на вясковых сьвятах у якасьці музыкі.

Некалькі разоў ён выступаў і ў рабочых клюбах. Праходзілі яго выступленьні з вялізным посьпехам.

Рэпэртуар у Сурмы багаты. Толькі слухай!

Інбелкульту трэба зьвярнуць большую ўвагу на гэты „Беларускі джаз-банд“.

**Прыезд музычнага этнографа Чуркіна.**

У Менску знаходзіцца беларускі музычны этнограф М. М. Чуркін, які прадэманстраваў 18 Чэрвеня ў Інбелкульце свае музычныя творы на беларускія матывы. У Інбелкульце ёсьць звыш 300 запісаў народных беларускіх песьняў, сабраных Чуркіным.

**Слоўнікі жывой беларускай мовы**

Інбелкульт сабраў да 120 тысяч слоў для слоўніка жывой беларускай мовы. Пачата праца па складаньні краёвых слоўнікаў Невельшчыны, Смаленшчыны і Гомельшчыны.

**Досьлед культурнага становішча літоўскіх калёній.**

Нар. Кам. Асьветы пастанавіў правесьці досьлед культурнага становішча літоўскіх калёній у акругах. Калёніі знаходзяцца ў гэткіх акругах: у Полацкай—3, Віцебскай — 1, Магілёўскай—1, Калінінскай—1, Барысаўскай—1, Аршанскай—1 і Мазырскай—1.

**Гербары.**

Пад кіраўніцтвам праф. Васількова сабраны і апрацованы гербары з 500 відаў расьлін. Гербары перадаецца ў Інбелкульт для музэю прыродазнаўства.

**Навуковая камандыроўка за межы.**

Інбелкульт пастанавіў камандыраваць для навуковай працы ў Польшчу і Чэхаславакію Г. Гарэцкага для вывучэньня па новых статыстычных матар'ялах эканамічнага становішча гэтых краін.

**Навуковыя камандыроўкі.**

СНК БССР адпусьціў Цэнтральнаму бюро навуковых працаўнікоў Беларусі 5.000 р. на арганізацыю навуковых камандыровак. З гэтай сумм 3.100 р. даецца Менскай сэкцыі, 1600 Горацкай і 300 р.—Віцебскай сэкцыі.

**Аб забясьпецы школ настаўніцтвам.**

З прычыны магчымага нехвату ўвосень школьных працаўнікоў, Нар. Кам. Асьветы прымае захады да падрыхтоўкі настаўніцтва з ліку скончыўшых агульна-асьветныя курсы, б. школы II ступені, вячэрнія рабфакі, б. сярэднія школы і г. д.

Асобы паказаных катэгорый (па 20-30 ч. на акругу) будуць дапушчаны да заняткаў на летніх настаўніцкіх курсах.

**Абсталяваньне акадэмічкай друкарні.**

Прэзыдыум Інбелкульту пастанавіў абсталяваць уласную друкарню акадэмічнага тыпу. Каштарыс складзен у суме 25000 р.

**Гісторыя беларускага мастацтва.**

Інбелкульт падрыхтаваў да друку кнігу Шчакаціхіна „Гісторыя беларускага мастацтва“. Кніга будзе мець вялікую вартасьць, бо да гэтага часу працы, прысьвечанай выключна гісторыі беларускага мастацтва, яшчэ ня было.

**Фольклёрная камісія.**

На апошнім пасяджэньні Інбелкульту пастаноўлена ўтварыць ў складзе Інстытуту асобную фольклёрную камісію, якая павінна разьбіраць, крытычна правяраць і падрыхтоўваць да друку ўсе матар‘ялы, датычныя народнай творчасьці.

# Прамысловасьць, сельская гаспадарка і каапэрацыя.

**Зводная будаўнічая праграма прамысловасьці ВСНГ.**

Прэзыдыум Дзяржаўнай Плянавай Камісіі ўхваліў зводную будаўнічую праграму прамысловасьці ВСНГ на агульную суму 5783237 р., а ўласна: на пабудову новых заводаў—1760646 р., на новае будаўніцтва—1173410 р. (у гэту суму ўваходзіць 230755 р. на кватэрнае будаўніцтва і 55986 р. на пабудову пажарных дэпо), на пераабсталяваньне—2064153 руб. і на капітальныя рамонты 785028 р.

Презыдыум канстатуе, што па гэтай програме работ рост прамысловага будаўніцтва сёлета дасьць 285 проц. у параўнаньні з 1924-25 г. і 440 проц. —у параўнаньні з 1923-24 г., што зьяўляецца вынікам узмоцненага разьвіцьця прамысловага будаўніцтва БССР.

**Выраб у БССР рэчаў, якія ўводзіліся кантрабандным парадкам.**

Беларускі саюз саматужнікаў арганізаваў першую каапэрацыйную арцель, якая будзе выпрацоўваць гальштукі і кашнэ, што ў большасьці ўвозіліся ў БССР кантрабандным парадкам. Машыны для гэтай арцелі выпісалі з заграніцы. У першыя часы будзе вырабляцца каля 1.000 тузінаў у месяц. Нар. Кам. Гандлю БССР узбудзіў хадайніцтва перад Нар. Кам. Гандалю ССС аб выдачы штучнага шоўку для вырабу гальштукаў і кашнэ.

**Рэспубліканскі мэлярацыйны фонд,**

Каб шырока дапамагчы насельніцтву крэдытам пры правядзеньні ўсіх відаў мэліярацыі, пры Белсельбанку ўтвараецца рэспубліканскі мэліярацыйны фонд. Сродкі фонду будуць складацца: з дзяржаўных асыг-

наваньняў у бюджэтным парадку, сродкаў Бельсельбанку ад пазык спэцыяльнага прызначэньня, укладаў, якія прыймаюцца Белсельбанкам па дагаворах са спэцыяльным прызначэньнем і розных іншых паступленьняў.

Мэліярацыйны фонд расходуецца ў першую чаргу на выдачу пазык мэліярацыйным т-вам, мэліярацыйным саюзам ды іншым с.-г. аб'яднаньням і арганізацыям і ў другую чаргу —паасобным сялянскім гаспадаркам. Пазыкі выдаюцца: на асушку, абвадненьне, урэгуляваньне рэк у сувязі з мэліарацыяй, на мэліараваньне акіненых і няўдобных зямель, на ўзмацненьне сыпучых пяскоў, на здабываньне торфу, на ўтварэньне гадавальнікаў насеньня сенажатных траў ды інш.

Крэдыты з фонду адпушчаюцца на абслугоўваньне вышэйпаказаных работ сродкамі вытворчасьці (машыны, прылады, насеньне, угнаеньне), на правядзеньне самых работ—на тэрмін ад 3 да 15 год, у залежнасьці ад віду работ, прычым з мэліярацыйнага фонду могуць фінансавацца толькі тыя работы, каштарысы на каторыя зацьверджаны адпаведнымі зямельнымі органамі і правядзеньне якіх прызнана мэтазгодным. Пазыкі заёмшчыкам выдаюцца праз установы с.-г. крэдыту з налічэньнем 4 проц. у год.

**398.000 р. на палепшаньне сельскай гаспадаркі.**

Сваю долю пазыкі гаспадарчага аднаўленьня 398.000 руб. Наркамзем БССР пастанавіў скарыстаць на правядзеньне гэткіх мерапрыёмстваў:

1) На абсталяваньне і пабудоўку ў 5-ці акругах (Віцебскай, Магілёўскай, Бабруйскай, Слуцкай і Менскай) 10-ці тыпавых масларобна-сыраварных заводаў, на агульную суму 48.000 р.;

2) на абсталяваньне 4-х льночысьцілак—у Віцебску—2, у Полацку—1, у Воршы—1 на агульную суму 20.400 р.;

3) на пабудоўку ў Слуцкай, Мазырскай і Полацкай акругах 3-х рамонтных майстэрняў с. г. машыны і прыладаў 45.000 р.;

4) Менскаму акрвыканкому на пачатковыя работы па пабудоўцы халадзільніка ў Менску —40.000 р.;

5) Менскаму акрвыканкому на пабудаваньне цэнтральнай малочнай у Менску—40.000 р.;

6) на абсталяваньне складаў для масла, лёднікаў і сутарэньняў для захаваньня сыраў у 4-х акругах (у Віцебскай, Бабруйскай, Магілёўскай і Слуцкай)—37.000 р.;

7) на абсталяваньне крахмальнага заводу ў камуне імя

Карла Лібкнехта, Магілёуск. кар.—10.000 р.;

8) Белсельтрэсту на пашырэньне заводу для апрацоўкі пладоў у саўхозе „Забалоцьце“ Аршанскай акругі—50.000 р. і

9) на ўзмацненьне існуючых нізавых масларобна-сыраварных заводў, а на ўкамплектаваньне іх лепшым малочным інвэнтаром і абсталяваньнем і пашырэньне памяшканьняў для перапрацоўкі малака і захаваньня прадукцыі—47 000 руб.

Рэшта—30.000 руб. будуць скарыстаны на іншыя патрэбы.

**Завадзкая жывёла для БССР.**

НКЗ атрымаў з Масквы 30 буйных ангельскіх сьвіней (9 матак і 21 кнораз).

Маткі разьмяркованы на 3 акругі (Менская, Віцебская і Магілёўская), а кноразы—на 5 акр.

**Таварыствы па гадоўлі птушак.**

У бліжэйшыя два месяцы Наркамзем засноўвае 4 таварыствы па гадоўлі птушак у Слуцкай, Аршанскай, Віцебскай і Полацкай акругах.

Таварыствы будуць забясьпечаны ўсім патрэбным інвэнтаром, штучнымі маткамі, племянным матар'ялам і г. д.

**Працоўныя калектывы БССР.**

У БССР налічваецца 212 працоўных калектываў, а ў іх—6500 чал. (у кастрычніку 1925 г. было 5562 чал.).

Большасьць рабочей сілы сканцэнтравана ў вытворчых калектывах, сярод якіх вызначаецца некалькі буйных заводаў, фабрык і майстэрняў, як „Дубровинская мануфактура“, тытуновая фабрыка і чыгуннаціцейны завод у Бабруйску ды інш.

Жанчыны ў працоўных калектывах складаюць 28,4 проц. агульнага ліку (у кастрычніку 1925 г. было 25,6 проц.). Праца падросткаў займае ў калектывах 8,1 проц.

**Каапэраваньне бядняцкіх гаспадарак.**

Клімавічы. За час з сакавіка да мая сёлетняга году каапэравана ў Калінінскай акрузе 4227 бядняцкіх гаспадарак, па галіне спажывецкай каапэрацыі —3046 гаспадарак, і па сельска-гаспадарчай каапэрацыі—3046 гаспадарак і па сельска-гаспадарчай каапэрацыі—1.181 гаспадарак.

**Конкурс на лепшую гаспадарку.**

Ворша. З 5-га чэрвеня распачаўся ў акрузе конкурс на лепшую сялянскую гаспадарку, які працягнецца да 1-га жніўня.

**Вынікі загатоўчай кампаніі за 1-е паўгодзьдзе сёл. г.**

Па вестках Нар. Кам. Гандлю, за мінулае паўгодзьдзе загатоўкі розных прадуктаў па БССР асноўнымі загатаўцелямі выявіліся ў гэткіх лічбах:

хлебных прадуктаў загатоўлена на суму 2052000 р., ільнянага семя—на 1.031.000 р., лёну і пянькі—на 2.881.000 р., мяса—на 1.800.000 р., скуреной сыравіны—на 2.352.000 руб., шчапіны—на 694.000 р., конскага воласу—на 77.000 р., пушніны—на 328.000 р. і іншых рэчаў—на 672.000 р. А ўсяго—на 11.582.000 р.

За 1-е паўгодзьдзе 1924 25 г. дзяржаўна-загатоўчая кампанія выявілася ў суме 10.604.000 р.

### Завароты с.-г. каапэрацыі.

Агульны зварот с. г. каапэрацыі БССР за 1-ю палову 1925-26 г.—1457000 р.

С.-г. каапэрацыя сёлета ўзяла цьверды курс на забясьпеку вёскі с-г. машынамі і інвэнтаром, адмовіўшыся ад апэрацый са сцажывецкімі таварамі, якія ў 1914-25 г. займалі ў яе заваротах віднае месца.

### 800000 руб. крэдыту для прац. калектываў.

Нарада прадстаўнікоў мясцовых банкаў пастанавіла выдаць прац. калектывам БССР 800,000 руб. крэдыту. Грошы будуць разьмяркованы па акруговых праўленьнях прац. калектываў; частку грошай атрымае І Дубровенская мануфактурная фабрыка.

### У Цэнтраземскладзе.

#### Якія рэчы будуць загатоўлены ў 1926-27 годзе.

Цэнтраземсклад апрацаваў плян забясьпекі сялянства гаспадарчымі рэчамі на 1926-27 г. Гэты плян прадугледжвае павялічэньне забясьпекі на 25 проц. супроць 1925-26 г.

Маюць быць загатоўлены гэткія рэчы:

Машын для апрацоўкі глебы (плугі, бароны ды інш.) на суму 710.715 руб.; сеялак — на 19.032 руб.; жняярак, косаў, сярпоў ды інш.—на 425.737 р.; малатарняў, прывадаў конных —на 902.850 руб.; арфаў, трыераў і г. д.—на 283.540 р.; машын і прыладаў для малочнай гаспадаркі—на 103 376 руб.; садова-агароднага інвэнтару—на 40.780 руб.; дробнага с. г. інвэнтару і рэчаў сялянскага абыходу—на 161.050 р.; мэталяў і мэталічных вырабаў—на 2030 037 р.; насеннага матар'ялу—на 404.390 р.; штучных угнаценьняў — на 459.065 р.; сродкаў для барацьбы са шкоднікамі—на 25000 р. і г. д.

Агулам, загатоўчы плян вызначан у 6.740.522 рублёў.

# Ахова здароў'я і дабрачыннасьць.

**Аб пабудове мэдыка-санітарнай арганізацыі ў сельскіх мясцовасьцях БССР.**

(Па матар'ялах Дзярж. Плян. Кам.)

Каб даць магчымасьць сельскаму насельніцтву карыстацца дарэмнай і агульнадаступнай мэдыцынскай дапамогай, прэзыдыум Дзярж. Плян. Камісіі прызнаў неабходным правесьці наступнае:

Усе мэдыцынска-санітарныя арганізацыі ў сельскіх мясцовасьцях павінны будувацца на аснове адміністрацыйнага раййнаваньня.

У кожным районе павінен быць арганізован такі лік ўрачэбных пунктаў, каб найбольшая аддаленасьць населеных месц ад іх не перавышала 11 кілёмэтраў.

У кожным районе павінна быць амбуляторыя з аптэкай, зубаўрачэбны габінэт (адзін на 2 районы) перавозачныя сродкі і прыёмны пакой з ізалятарам на 4 ложкі.

Апрача гэтага, у кожным районе пры адным з урачэбных пунктаў павінна быць бальніца з агульным лікам ложак в разрахунку 1 ложак на 1.200 жыхароў.

Пры ўрачэбным вучастку павінна быць сканцэнтравана ўся праца па барацьбе з сацыяльнымі хваробамі, па ахові маткі і дзіцяці, ахове здароўя дзяцей і падросткаў і па фізычнай культуры. Для вядзеньня агульнай санітарнай працы па аздараўленьню вёсак, для барацьбы з эпідэміямі, наладжаньня школьнай санітарыі і санітарнай асьветы, павінен быць уведзен (у палове районаў БССР) інстытут спэцыяльных районных дактароў.

Увесь плян забясьпечаньня сельскага насяленьня мэдыцынска-санітарнай дапамогай павінен быць выканан у працягу 5-х год, пачынаючы з 1926-27 году.

**Сход з удзелам прадстаўніка міжнароднага т-ва.**

У Менск прыехаў з Жэневы (Швэйцарыя) прадстаўнік міжнароднага т-ва Чырвонага Крыжу т. Багоцкі.

Пры ўдзеле яго адбудзецца пашыраны сход ЦК Беларускага т-ва Чырвонага Крыжу па пытаньнях, зьвязаных з пашырэньнем дзейнасьці апошняга пад лёзунгам міжнароднай арганізацыі.

**Лётарэя ў 100.000 руб.**

Саюзныя органы дазволілі арганізаваць у БССР грашовую лётарэю на карысьць беспрытульных дзяцей у суме 100.000 руб.

**Лётарэя на карысьць беспрытульных дзяцей.**

Атрыман дазвол на арганізацыю ў Менску лётарэі на ка-

рысьць бяспрытульных, на агульную суму 50.000 руб.

**Яслі і пляцоўкі для дзяцей.**

ЦК дапамогі бяспрытульным дзецям адпусьціў НК Аховы Здароўя і НК Асьветы на 1.500 руб. на арганізацыю дзіцячых ясьляў і пляцовак.

**15.000 руб. на карысьць бяспрытульных.**

З пачатку 2-хмесячніка на карысьць бяспрытульных дзяцей да гэтага часу сабрана 15.000 руб.

**Інтэрнаты пры 7-хгодках для прыяжджаючых дзяцей.**

Нар. Кам. Асьветы пастанавіў арганізаваць у кожным районе пры аднэй з сямёхгодак інтэрнаты для прыяжджаючых сялянскіх дзяцей.

Гэтыя інтэрнаты будуць утвораны толькі для дзяцей другога канцэнтру 7-хгодак (3-х старшых груп).

## Заходняя Беларусь.

### Паўлюкевічаўская „спроба сіл“.

У Вільні сярод беларусоў злобай дня зьяўляецца скліканы Паўлекевічам зьезд, адбыўшыйся 27-28 чэрвеня сёлета.

Зьезд меў на мэце выявіць „удзячнасьць“ беларускага жыхарства за польскую „апеку“ і стварыць краёвы беларускі орган, якім мог-бы апэраваць Пілсудзкі.

Каб падагрэць пачуцьцё вернападаных, было адпушчана (як нам пішуць) тры бочкі гарэлкі і 15,000 злотых.

Усяго сабралася каля сотні чалавек. Значны лік мандатаў (24) быў сфабрыкаваны на самом зьезде і перададзены прысутным гасьцям. Мандатная камісія не пажадала даць справаздачу, хро прысутнічае на зьезде і ад каго мае мандат.

Ня гледзячы на тое, што Паўлюкевіч зьбіраў сваю „верную дружыну“, на зьезде не абыйшлося без скандалаў для ініцыятараў.

Для большай пэўнасьці быў наладжан такі парадак, што пленум заслухваў толькі даклады ініцыятараў, спрэчкі-ж і распрацоўка рэзалюцый перадавалася ў камісіі.

Зьезд адразу-ж закідаў Паўлекевіча пытаньнямі: „Чаму на зьезде няма беларускіх паслоў? Мы жадаем заслухаць

справаздачу нашых паслоў аб сучасным становішчы. Мы трэбуем, каб прэзыдыум запрасіў паслоў“...

Паўлюкевічу прышлося „ўціхамірваць“ зьезд пры дапамозе чатырох (увесь час прысутнічаўшых на зьезде) паліцыянтаў і „выставіць“ некаторых сялян, прыехаўшых з мандатамі ад мейсцовага жыхарства.

Камісіі таксама не спраўдзілі надзеі Паўлекевіча. Палітычная камісія прыняла і перадала у прэзыдыум (Аляхновічу) гэткую рэзалюцыю: „Зьезд дамагаецца ад польскай дэмакратыі выконаньня ніжэйпададзеных жаданьняў беларускага народу:

1) Як найхутчэйшага наданьня тэрыторыяльнае аўтаноміі для Заходняй Беларусі.

2) Поўнае амністыі для ўсіх вязьняў, засуджаных па палітычным, нацыянальным і рэлігійным справам.

3) Як найхутчэйшых выбараў у самаўрад на дэмакратычных асновах з захаваньнем правоў беларускага насяленьня і абароны гэтых правоў ад уціску з боку адміністрацыі.

4) Незабаўнага ўвядзеньня судоў прысяжных, скасаваньня вынятковых (doraznych) судоў і кары сьмерці.

5) Роспуску Сойму і Сэнату і новых выбараў на аснове істнуючай выбарнай ордынацыі.

Зьезд лічыць сябе неправамоцным выдзяліць з сабе гэткі орган, які зьяўляўся-бы прадстаўніцтвам усяго беларускага насяленьня ў Польшчы дзеля таго, што на ім ня было прадстаўнікоў ад большасьці беларускіх палітычных, культурных і грамадзкіх арганізацый, а таксама прадстаўнікоў навет ад цэлых паветаў. Дзеля гэтага зьезд выбірае толькі часовы орган, якому даручае прадставіць пажаданьні свае цэнтральнай уладзе, і, калі гэта будзе выканана, злажыць сваё паўнамоцтва.

Гэта рэзалюцыя ўспалохала „вернападанічаскае пачуцьцё“ Паўлекевіча. Ен схаваў гэтую рэзалюцыю ў кішэню, а сам на-сьпех сфабрыкаў свой сурагат.

Гэткая чыннасьць „доктара“ выклікала вялікае абурэньне зьезду.—Каля паловы дэлегатаў, злажыўшы свае пратэсты, групамі пакінула сход і зьвярнулася да сялянска-рабочай грамады з просьбаю агалосіць іх пратэст у часопісі.

Агульна знаёмы кавенчанам М. на сходзе не прысутнічаў, а...гарэлачкай ўсёжткі (відаць з гора!) пакарыстаўся...

Redaktorius-leidėjas **Visockis**.
Рэдактар-выдавец **Ст. Высоцкі**.